ЛІСТЫ З ПАЛЕССЯ

# 7. «Генералісімус Суvotraў меў дужа ваяўнічы нораў…»

## Ці смачны хлеб «Сувораўскі»?

Гісторыя чамусьці вырашыла засакрэціць імя чалавека, які спрычыніўся да заснавання старажытнага Кобрына. Скажам, выходзіце вы на плошчу ў Давыд-Гарадку Столінскага раёна, а там – дзесяціметровы князь Давыд дзідай на бліжэйшую карчму паказвае. Адразу відно, хто гаспадар-заснавальнік у тым гарадку. Кобрын па гадах яму амаль не саступае, але выглядае як сірата, якую невядома хто на белы свет пусціў.

Блукаючы па цэнтры горада, можна падумаць, што заснаваў яго расійскі палкаводзец Аляксандр Суvotraў, чыя памяць ушанавана кобрынцамі з нечуваным размахам. Мяркуйце самі: у горадзе ёсць вуліца Суворава, парк Суворава, ваенна-гістарычны музей імя Суворава, галоўнае месца ў экспазіцыі якога займае мемарыяльны дом Суворава. У горадзе ажно 3 (!) помнікі Суvoraву, адзін з якіх – у поўны рост і з шабляй – усталяваны на скрыжаванні цэнтральных вуліц – Савецкай і Пушкіна. Калі вам спатрэбіцца пераначаваць у горадзе – да вашых паслуг гатэль «Суvoraў», калі захочацца падсілкавацца – у крамах прадаецца хлеб «Сувораўскі», а калі закарціць памаліцца – вас чакае Сувораўская царква (народная назва Свята-Петрапаўлаўскага храма)…

Чым жа заслужыў гэткую пашану чалавек, чый поўны тытул займае паўстаронкі ў музейным даведніку і гучыць так: «Граф Рымнікскі, святлейшы князь Італійскі, граф Расійскай і Рымскай імперый, генералісімус расійскіх сухаземных і марскіх сіл, фельдмаршал аўстрыйскіх і сардзінскіх войск, Сардзінскага каралеўства, гранд і прынц каралеўскай крыві і кавалер…» (далей ідзе пералік 19 ордэнаў).

Тытул, вядома ж, уражвае. Але калі зірнуць на Суворава з уласна беларускай званіцы, то заслуг у яго перад Беларуссю няма. Ніводнай. Хоць пад мікраскопам дзейнасць ягоную разглядай. А вось сувораўскія «крывавыя подзвігі» на беларускай зямлі відны і няўзброеным вокам. У 1794 годзе будучы генералісімус агнём і мячом зачысціў Брэстчыну ад паўстанцаў Касцюшкі, за што атрымаў ад імператрыцы Кацярыны II «в вечное и потомственное владение» Кобрынскую воласць з больш як 13.000 сялянскіх душ. А трыма гадамі раней пад Баранавічамі ён разграміў атрад вялікалітоўскага гетмана Міхала Казіміра Агінскага. Карацей кажучы, з дапамогай Суворава Расійская імперыя захоплівала новыя землі і душыла паўстанні на ўскраінах.

## Захопнік ці герой Беларусі?

Беларусь – даўно не ўскраіна імперыі, таму культ Суворава ў Кобрыне выглядае, папраўдзе кажучы, дзікавата. Гэта нейкі гістарычны мазахізм – ставіць помнікі дзеячу, які заганяў Беларусь у імперскія аглоблі, на сумленні якога тысячы паўстанцкіх жыццяў.

Тым болей, на той жа Брэстчыне існуюць два музеі Тадэвуша Касцюшкі – у Марачоўшчыне і Малых Сяхновічах. Як замежнаму турысту разабрацца, хто тут сапраўдны герой – Касцюшка ці Суvoraў? Помнікі стаяць абодвум, пра абодвух экскурсаводкі хвалебныя песні спяваюць, ва ўсе тры музеі школьнікаў на экскурсіі возяць. І даросламу чалавеку гэткую «талерантнасць», відаць, няпроста асэнсаваць, а што творыцца ў дзіцячых галовах?

З такімі думкамі я падышоў да мемарыяльнага дома, перад якім узвышаўся бюст са знаёмым вастраносым профілем. Якраз ад гаманкой грамадкі школьнікаў, што знікала ў музейных дзвярах, адасобіліся двое хлапчукоў. Як аказалася, пяцікласнікі кобрынскай гімназіі №5 Ілля Барэцкі і Лёнік Кавалёў пабывалі ў музеі раней, праўда, убачанае там прыгадваецца ім з цяжкасцю.


Гэты Суvoraў з'явіўся ў Кобрыне ў 1947 годзе.

«Суvoraў – вялікі палкаводзец…» – няўпэўнена пачынае Ілля. «Гэта герой Беларусі, які з 20-тысячным войскам разбіў 100-тысячную варожую армію», – прыходзіць на дапамогу сябру Лёнік, які мае «дзявятку» па гісторыі. А па логіцы я паставіў бы яму «дзясятку». Ну, раз тры помнікі, вуліца і музей – значыць, сапраўды герой.

## «Пасмяротная маска – як збавенне»

Прыгнечаны размовай з гімназістамі, я скіроўваюся ў музей, дзе мяне па васьмі багата абсталяваных залах суправаджае рускамоўны аўтагід (па-беларуску такой паслугі няма). «*На вид он простая избушка, / что осела под тяжестью дней. / А внутри сабли, ружья и пушки, / и доспехи богатырей*», – точыцца мне ў вушы размераны, пазбаўлены эмоцый голас. Што ж, усё так – шаблі і даспехі на месцы. А галоўнага «багатыря» – аж залішне, уся экспазіцыя – гэта нават не жыццё, а жыціе. Суvoraў і непераможны, і бясстрашны, і міласэрны, і сціплы, і салдатам як бацька родны, і прыгонных сялян любіў, і «истину царям с усмешкой говорил».

Вось Суvoraў вытканы на вялікім, на ўсю сцяну, дыване – пастараўся Брэсцкі дывановы камбінат.

Вось Суvoraў на сувенірных лыжках – цікава, колькі іх вырабіў мясцовы майстра І.Данілюк?

Вось Суvoraў на дэкаратыўных яйках – хто іх знёс, не вядома.

Вось Суvoraў разбівае паўстанцаў пад Крупчыцамі – генерал Серакоўскі дае драпака.

Вось Суvoraў штурмуе Варшаву, дзе велікадушна адпускае на свабоду 6000 палонных – пад абяцанне больш не ваяваць з Расіяй.

Вось Суворава на загад Паўла І вывозяць з Кобрына – сялянам да слёз шкада добрага пана.

Вось Суvoraў пераходзіць цераз Альпы – копія зроблена даволі халтурна.

Партрэты, скульптуры, ва́зы, гравюры, медалі, сюжэтныя карціны, батальныя палотны – і паўсюль Суvoraў, Суvoraў, Суvoraў. Пасмяротная маска ўспрымаецца як збавенне: ну нарэшце гэты аднааблічны паноптыкум закончыўся.

Хіба ж простым запісам у кнізе водгукаў магчыма выказаць выкліканыя экспазіцыяй пачуцці? Падымаюся на другі паверх, дзе знаходзіцца музейная адміністрацыя. Дырэктарка **Алена Бабенка** сядзіць у кабінеце пад вялізным партрэтам таго ж Суворава і настроена даволі рашуча бараніць свайго патрона. Пытаюся: чаму паўсюдна ў музеі паўстанне 1794 года называецца «польскім»? Яго ж кіраўнік Тадэвуш Касцюшка нарадзіўся на Брэстчыне і называў сябе ліцвінам.

«Ліцвінам называўся, а змагаўся за Польшчу, – умомант збівае мой патрыятычны імпэт Алена Віктараўна, – ніякай Літвы-Беларусі ў новай канстытуцыі Рэчы Паспалітай не прадугледжвалася. Таму за Касцюшкам пайшла пераважна тая частка насельніцтва, якая лічыла сябе палякамі. Ды і асноўныя баявыя дзеянні адбываліся за межамі сучаснай Беларусі».

Паказваю Алене Віктараўне напісаны ёю ж у суаўтарстве з падначаленымі музейны даведнік, дзе сцвярджаецца, што «самое значительное сражение этой кампании разыгралось 6 сентября 1794 года у стен Крупчицкого монастыря под Брестом». Але яна працягвае настойваць на польскім характары паўстання. І нечакана акцэнтуецца на гуманізме Суворава: «Вось часам пішуць у газетах, што ён заліў Беларусь крывёй. Гэта міф. Насамрэч стаўленне Аляксандра Васільевіча да мясцовага мірнага насельніцтва было надзвычай лаяльным. Што пацвярджаецца наступнай выпіскай з загада: «Нигде при переходе местечек, деревень и корчм ни малейшего разорения не делать, дабы не ожесточить сердце народа и не заслужить порочного названия грабителей».

## «Сувораўскія маршатрады расстрэльвалі і мяне»

Што ж, і дарога ў пекла вымашчана, як вядома, добрымі намерамі. Паводле сведчання польскіх гісторыкаў, ва ўзятай штурмам Варшаве расійскія казакі ўчынілі сапраўдную разню. Але мая суразмоўца працуе ў музеі 27 гадоў і звыкла становіцца ў позу абаронцы: «Чытаеш газеты – валасы дыбарам устаюць: Суvoraў – кат беларускага народа! Усё гэта фантазіі журналістаў. У 1994 годзе, у разгар незалежнай Беларусі (*выказванне, як мне падалося, красамоўнае.* – ***М.С.***) на наш музей ішлі вельмі сур'ёзныя нападкі, яго патрабавалі перапрафіляваць. І мая папярэдніца напісала афіцыйны запыт у Нацыянальную акадэмію навук з просьбай прадставіць дакументы, якія пацвярджалі б учыненыя Суворавым злачынствы на тэрыторыі Беларусі. Дык ёй нічога не прыслалі! Таму казкі пра мірнае насельніцтва, якое нібыта падвяргалася тут жорсткім рэпрэсіям, я разглядаю як чорны піяр».

Мне чорным піяршчыкам быць не хочацца, і я прыгадваю напісаную ў пазамінулым стагоддзі велічальную оду Суvoraву, якая змешчана ў экспазіцыі. Яе аўтар – нейкі Г.Біруза – натхнёна расказвае, як генералісімус *«по-молодецки, в краткий срок / клал всех врагов у царских ног»*. Прапаную для раўнавагі і паўнаты партрэта героя размясціць у той самай вітрыне верш Сяргея Панізніка «Музей у Кобрыне»:

*Трафеем стаў карніку Кобрын*
*з капой паўзадушаных душ.*
*Вітрынны Суvoraў – ён добры*
*і шэпча: «Герояў не руш!»*
*Ён – кат беларускага роду,*
*ён – меч для маіх каранёў…*
*Было пакарэнне народаў!*
*Ішло пагашэнне агнёў!*
*Пасведчаць канфедэраты,*
*паўстанец Касцюшкі кіўне:*
*сувораўскія маршатрады*
*расстрэльвалі і мяне...*

Дырэктарка глядзіць на мяне так, быццам я не верш, а бомбу ў музей прынёс. Спрабую замацавацца на захопленай пазіцыі і цікаўлюся, навошта палкаводца, які за доўгае жыццё не прайграў ніводнай бітвы, выставілі ў музеі як нікчэмнага плагіятара? У вачах Алены Віктараўны мільгае лёгкі сполах. Тлумачу, што вядомае выслоўе «Дело мастера боится» – зусім не афарызм Суворава, а радок з байкі Івана Крылова «Шчупак і кот».

Мая суразмоўца з палёгкай уздыхае – мог жа і байкар залезці ў пазыкі да генералісімуса…

## «Величие России» – за грошы беларускіх падаткаплацельшчыкаў?

Дырэктарцы відавочна надакучылі мае прэтэнзіі. Маўляў, вы ўсё крытыкуеце, а пагартайце кнігу водгукаў. Гартаю. І тут мяне чакае поўнае фіяска – ва ўсім двухсотстаронкавым фаліянце я не знаходжу ніводнага адмоўнага водгуку! Шмат наведнікаў з Расіі – усе яны проста захопленыя. Суайчыннікі таксама не шкадуюць хвалебных слоў. Зрэдку трапляюцца запісы на беларускай мове – і там адна ўдзячнасць. «Вялікі дзякуй за экспазіцыю, за захаванне гісторыі. Было вельмі цікава». Подпіс – «брэсцкія летуценнікі». «Вельмі прывабны і ўтульны музэй!!! Дзякуй! Менск, студэнты БДУ». Палкоўнік з Масквы *В.Бондюков* расчулена прызнаўся: «Только в Вашем музее до конца можно прочувствовать все величие России через личность генералиссимуса Суворова». Зрэдку трапляюцца і вершаваныя водгукі. Схаваўшыся пад псеўданімам *Паэт з народа*, нейкі беларускі паслядоўнік Г.Бірузы ўсю гісторыю паўстання здолеў уклaсці ў чатыры радкі: «*Генералісімус Суvoraў / меў дужа ваяўнічы нораў – / ён зарадзіў карцеччу пушкі / і разагнаў мяцеж Касцюшкі*».

Пытаюся ў Алены Бабенка, як яна ўспрымае адкрыты ўжо ў часы незалежнасці музей Касцюшкі ў Марачоўшчыне – як канкурэнта ці ідэалагічнага праціўніка? А можа, «сувораўцы» з «касцюшкаўцамі» збіраюцца разам на Дзень музейнага работніка і спяваюць песні? Спачатку – народную «Пойдзем, хлопцы, да Касцюшкі – рубаць будзем маскалюшкі». А потым – з рэпертуара Алега Газманава: «Он Россию любил, / он России служил, / ростом мал, да удал. / И никто не забыл, / как он брал Измаил, / как геройски всегда воевал».

Галоўная суворазнаўца краіны канкурэнцыі не баіцца: «Музей Суворава існуе з 1946 года. Ён унікальны. Наш першы дырэктар Аляксей Мартынаў дзесяцігоддзямі ездзіў па музеях СССР і збіраў экспанаты. І – пад імя Суворава – нам ахвотна давалі. Арыгінальных рэчаў мы атрымалі столькі, што ўжо ад нас 5000 экспанатаў былі перададзены ў іншыя музеі Беларусі – зброя, абмундзіраванне, дакументы. Музей Касцюшкі – калі ласка, няхай існуе (цяпер іх ужо два). Я тут супярэчнасцяў ніякіх не бачу. Суvoraў – велічыня сусветнага маштабу. Да таго ж ён мае непасрэдныя адносіны да Кобрына. Маёнтак Кобрынскі Ключ быў яму падараваны за ваенныя заслугі. Тут ён пэўны час жыў. Таму і музей наш мае права на існаванне. А Касцюшка да Кобрына не мае ніякіх адносін – ні сваім нараджэннем, ні хрышчэннем, ні жыццём, ні смерцю».

На развітанне Алена Бабенка неспадзявана аказвае мне незвычайны гонар – сама праводзіць экскурсію па ўсім музеі. А ў зале «100-годдзе БССР» нават спрабуе перайсці на беларускую мову. Відаць, з-за недахопу практыкі ёй гэта даецца з цяжкасцю, як і мне цяжка зразумець, чаму ў экспазіцыі ні словам не згадваюцца Зміцер Жылуновіч, Аляксандр Чарвякоў ці Язэп Дыла – заснавальнікі той самай БССР. Затое з нішы выглядае ўсё той жа Суvoraў.

На фоне чырвоных сцягоў з крыклівымі надпісамі ён глядзіцца проста анекдатычна.

## Дзве паразы генералісімуса

І ўсё ж ці сапраўды Касцюшка – чужак для Кобрына? Мясцовы грамадскі актывіст **Аляксандр Мех** лічыць, што Алене Бабенка не шкодзіла б пачытаць краязнаўчую літаратуру. Аказваецца, да 1952 года ў цэнтры горада стаяў помнік Касцюшку, выраблены на грошы кабрынчан яшчэ за польскім часам. Цяпер на тым месцы сядзіць расійскі двухгаловы арол, што сімвалізуе перамогу ў вайне 1812 года. Дзякуй Богу, помнік ацалеў і сёння стаіць у Малых Сяхновічах, дзе, паводле адной з версій, і нарадзіўся Касцюшка.

Мы гутарым з Аляксандрам на вуліцы Дружбы, над якой бліскае пазалотай купалоў праваслаўная царква. Яе будаўніцтва фінансаваў асабіста маскоўскі патрыярх, паставіўшы ўмову – у храме поруч са святымі знойдзецца месца і Суvoraву. Нават быў зроблены адмысловы іканастас, дзе ўслаўляліся яго ваенныя подзвігі. Тады кобрынскія актывісты правялі сярод гараджан цэлую антысувораўскую інфармацыйную кампанію. І – Суvoraў быў вымушаны адступіць, а царква была асвечана ў гонар загінуўшых падчас Вялікай Айчыннай вайны.

І гэта не першая параза, якую зазнаў неперможны генералісімус на беларускай зямлі. Жыхары вёскі Малыя Круговічы, што ў Ганцавіцкім раёне, неяк зладзілі вясковы рэферэндум і пераназвалі вуліцу Суворава ў гонар свайго земляка паэта Віктара Гардзея. А старыя шыльды сабралі і спалілі. Каб і духу сувораўскага на ганцавіцкай зямлі не было.

Учынак вяскоўцаў, на маю думку, варты пераймання і ў другіх гарадах і мястэчках, дзе імя Суворава носяць ажно 59 вуліц. Бо незалежная Беларусь і культ заваёўніка беларускай зямлі – рэчы несумяшчальныя.

**Міхась СКОБЛА.**

РЭГІЁН

# Зачынена 360 прадуктовых магазінаў

Камітэт дзяржкантролю па Гродзенскай вобласці падвёў вынікі дзейнасці аблспажыўтаварыства за апошнія гады і прыйшоў да высновы, што яго доля ў рознічным таваразвароце мае ўстойлівую тэндэнцыю да зніжэння.

Апошняй праверкай дзяржкантролю Гродзенскага аблспажыўтаварыства, паводле дадзеных з афіцыйных крыніц, было ахоплена каля сотні магазінаў. У выніку выдадзена 14 прапаноў аб спыненні дзейнасці па прычыне неадпаведнасці іх санітарна-эпідэміялагічным нормам. Выпісана 26 прадпісанняў аб канфіскацыі няякаснай прадукцыі агульнай вагой 5 тон. Да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута 130 чалавек.

За апошнія 5 гадоў, паводле дадзеных дзяржкантролю, у вобласці было зачынена 360 магазінаў спажыўкааперацыі. З іх 30% – у сельскай мясцовасці. Апошнім часам спажыўкааперацыя прайграе і ў абслугоўванні насельніцтва праз аўталаўкі. У трох раёнах – Ваўкавыскім, Гродзенскім і Смаргонскім – гэтую нішу паступова займае ААТ «Еўрагандаль».

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

РАКУРС

# У 3,5 тысячи белорусов пенсия 112 рублей

*В Министерстве труда и соцзащиты прошла онлайн-конференция по вопросам пенсионного обеспечения. Предлагаем ответы заместителя министра труда и соцзащиты **Валерия Ковалькова** на наиболее популярные у населения вопросы.*

**– Прорабатываются ли в Министерстве труда предложения о новом повышении пенсионного возраста в Беларуси? Если да, то какие варианты рассматриваются?**

– Повышение пенсионного возраста начато совсем недавно, с 2017 года. Поэтому давайте дождемся результатов.

**– Белорусы, которые не имеют права на трудовую пенсию из-за нехватки страхового стажа с уплатой взносов, могут получать только социальную пенсию. Это около 110 рублей (*с 1 мая 112 руб.* – Ред.). Сколько человек в нашей стране получают социальную пенсию? И планирует ли Минтруда предпринять какие-либо действия, чтобы сократить число тех, кто получает социальную пенсию?**

– Таких пенсионеров 3,5 тысячи человек. В целом хотелось бы отметить, что размер пенсий зависит от продолжительности трудового стажа и уровня заработка, из которого уплачены страховые взносы. То есть объем участия гражданина на легальном рынке труда определяет его будущее пенсионное обеспечение. Министерством принимается ряд мер по стимулированию легальной трудовой деятельности. Это, в частности, оказание содействия в трудоустройстве, ведение общереспубликанского банка вакансий, информирование о важности уплаты страховых взносов и ряд других.

**– Когда сократят страховой стаж для матерей четверых детей?**

– Такие меры обсуждаются, но решение по ним пока не принято.

**– Проводился ли с начала года с учетом наполняемости бюджета ФСЗН аналитиками перерасчет возможности достижения в 2019 году соотношения размера средней пенсии к средней зарплате в 40%. Будет ли достигнут этот показатель? И каков его уровень сейчас? Возможно ли в этом году, как и в 2018-м, повышение пенсии трижды?**

– Одной из основных задач, стоящих перед министерством, является доведение соотношения средней пенсии по возрасту и средней заработной платы до уровня 40%. В январе–апреле 2019 г. это соотношение составило 38,3 процента. С мая т.г. произведен перерасчет трудовых пенсий. В результате перерасчета средний размер пенсии по возрасту увеличился на 6,3 процента.

Параметры и сроки проведения до конца года перерасчета пенсий будут зависеть от сценария развития экономики.

**– В Беларуси нужно отменить взносы в ФСЗН для работающих пенсионеров – с таким предложением выступили в прошлом году работники «Беларуськалия» на встрече с главой Администрации президента Натальей Кочановой. Она обещала дать ответ после того, как этот вопрос рассмотрят и проработают со специалистами Минтруда. Рассматривали ли в Министерстве труда этот вопрос? И можно ли рассчитывать (и когда), что в Беларуси отменят взносы в ФСЗН для работающих пенсионеров?**

*На этот вопрос ответила **Наталья Мурашкевич,** начальник главного управления пенсионного обеспечения Министерства труда и соцзащиты:*

– Этот вопрос хотелось бы рассмотреть в несколько иной плоскости. Именно уплата лицом, достигшим общеустановленного пенсионного возраста, в период работы взноса в размере одного процента индивидуального заработка позволяет, отказавшись от получения пенсии, существенно увеличить ее размер в дальнейшем – за 5 лет такой работы в 1,7 раза. При этом отмечу, что средний период получения пенсии у мужчин приближается к 17 годам, у женщин превышает 26 лет.

СТОП-КАДР

# Вот так 20 июня сильный дождь подтопил улицы Пинска.



НЕ ПРАПУСЦІЦЕ!

# Эдуард Акулін запрашае…

Сёлета ГА «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» адзначае 30-годдзе. У межах святкавання **31 чэрвеня** ў сядзібе ТБМ па вул.Румянцава, 13 адбудзецца літаратурная сустрэча з **Эдуардам Акуліным**.

Таксама прыхільнікаў беларускай літаратуры чакае прэзентацыя 20-га нумара часопіса «Верасень».

Пачатак а **18-й гадзіне**.

# Забытая слава

## Кароткі агляд ваеннай гісторыі Беларусі

*Гэты абагульняючы матэрыял з'явіўся яшчэ ў дзевяностыя гады мінулага стагоддзя. Пад агульнай рэдакцыяй доктара гістарычных навук М.Ткачова яго падрыхтавалі Г.Штыхаў, Г.Сагановіч, С.Тарасаў, А.Дзярновіч, Ю.Бохан, У.Кананові, У.Амяльянчык, В.Герасімаў, С.Таляронак, М.Статкевіч. Лічым мэтазгодным працягнуць знаёміць з ваеннай гісторыяй Беларусі чытачоў «Народнай Волі».*

*(Працяг. Пачатак у №47.)*

### IV

Калі ў XIV – пачатку XV стагоддзя асноўную пагрозу для беларуска-літоўскага гаспадарства ўяўляла крыжацкая небяспека, дык пазней стала хутка ўзрастаць значэнне ўзаемадачыненняў з усходнім суседам – Маскоўскай дзяржавай, якая падбівала землі вакол сябе. Вільня і Масква рабіліся зацятымі сапернікамі.

У сярэдзіне XIV стагоддзя канфлікт разгарэўся з-за ўплыву на Смаленскае княства. Смаленшчына – частка былых крывіцкіх зямель – была генетычна і гістарычна звязана з беларускай дзяржаўнасцю. Звязваў Смаленск з Вялікім Княства і гандаль з Рыгай. Аднак гэтае княства пакутавала ад нападаў маскоўцаў. Калі ў сярэдзіне XIV стагоддзя ў Смаленску часова перамагла прамаскоўская партыя, гэта сапсавала адносіны паміж двума суседзямі і родзічамі. У канцы 60-х гадоў XIX стагоддзя пазіцыі Вялікага Княства Літоўскага на Смаленшчыне ўзмацніліся: у 1367 годзе Андрэй Альгердавіч Полацкі заняў Родню і Хорвач – два гарадкі на поўдзень ад Смаленска. У рэшце рэшт смаленскі князь Святаслаў Іванавіч стаў верным саюзнікам Вялікага Княства і разам з вялікім князем Альгердам у 1368, 1370 і 1372 гадах змагаўся супраць маскоўскіх войскаў, якія імкнуліся перашкодзіць аб'яднанню беларускіх зямель. Смаленскія палкі хадзілі і на крыжакоў.

Дадаткова абвастрыліся адносіны паміж вялікімі княствамі Маскоўскім і Літоўскім у сувязі з антымаскоўскімі тэндэнцыямі ў палітыцы Цвярскога княства, якое знайшло сабе саюзнікам беларуска-літоўскую дзяржаву. З гэтым і звязаны знакаміты паход 1375 года на Маскву. Беларускія хронікі досыць красамоўна адлюстроўваюць тыя падзеі. На світанку вялікі князь Альгерд разам са сваім войскам узышоў на Паклонную гару. Маскоўскі князь Дзмітрый (будучы Данскі), рэальна ацаніўшы сілы і бачачы бесперспектыўнасць бітвы, першым прапанаваў замірэнне. «А пасьля доўгіх намоваў даўся Альгерд да яднаньня й міра, але пад умоваю, каб яму вольна было з часткаю рыцарства й панамі вернымі да замку Маскоўскага збройнымі ўехаць». У крамлёўскім саборы Альгерд заявіў: «Бачыш, княжа Дзмітрый, хто з нас раней на вайну ўстаў». Гэтыя падзеі і словы даюць магчымасць адзначыць мабілізацыйныя здольнасці беларуска-літоўскай дзяржавы і тактычную мабільнасць яе войска, што ў дадзеным выпадку з'явілася передумовай перамогі. Падзеі адбываліся на Вялікдзень, і Альгерд падараваў Дзмітрыю чырвонае каляднае яйка, а затым зламаў сваю дзіду аб браму Масквы, каб Масква памятала, што беларуска-літоўскае войска было тут і «дзіду сваю Альгерд крушыў аб браму».

У выніку мірных перамоў канфлікт быў заладжаны. Праўда, толькі часова.

Новы крызіс у адносінах беларуска-літоўскай дзяржавы і Вялікага княства Маскоўскага ўзнік ужо за часамі Вітаўта Вялікага. І гэтым разам асаблівая ўвага Масквы была звернута да Смаленска. Таму вялікі князь Вітаўт мусіў у 1405 годзе падысці пад сцены Смаленска з вялікім войскам і артылерыяй. Здраднік-князь Юрый Святаслававіч Смаленскі ўвайшоў у змову з Масквою, накіраваў паслоў да крыжакоў па дапамогу. У адсутнасць князя Вітаўт з удзелам смалян увайшоў у горад.

Але толькі пасля Дуброўны (Грунвальда) і ліквідацыі крыжацкай пагрозы беларуска-літоўскі гаспадар здолеў па-сапраўднаму супакоіць Маскву. Падставай для ваеннага паходу было абрабаванне ў 1416 годзе пад Пуціўлем маскоўцамі беларускіх купцоў. Вітаўт Вялікі досыць хутка арганізаваў ваенную экспедыцыю. Два войскі сустрэліся на р.Вугры. Патрабаванні беларуска-літоўскага гаспадара былі наступнымі: пакаранне рабаўнікоў і кампенсацыя маскоўскім бокам вайсковых выдаткаў. Падчас перамоў адзін з беларускіх рыцараў Андрэй, не вытрымаўшы, ускрыкнуў: «Не мірыся, Вітаўце, не мірыся, таму што на самай справе мы з Масквою яшчэ не біліся!» Маскоўцы выканалі ўсе патрабаванні вялікага князя літоўскага.

У выніку ваенных і дыпламатычных дзеянняў Беларуска-Літоўская дзяржава пашырыла межы на ўсход. Ягоная мяжа праходзіла ажно каля сучаснага Мажайска – за 107 вёрст ад Масквы.

Ужо пры вялікім князі Казіміры, у 1458 годзе, адбылася наступная вайна. Маскоўскі князь Васіль сабраў вялікае войска, заклікаўшы на дапамогу казанскага хана, і падышоў да Вязьмы, якая тады належала Вялікаму Княству Літоўскаму. Па шляху маскоўцы «руйнавалі й палілі воласьці». Па Беларусі і Літве князь Казімір таксама склікаў войска, наняўшы дадаткова польскіх жаўнераў. Гетманам быў пастаўлены беларускі магнат Станіслаў Кішка. Вялікі князь Казімір застаўся ў Смаленску, а гетман рушыў з войскам насустрач маскоўцам. Але вораг ужо паспеў вывесці свае аддзелы з тэрыторыі беларуска-літоўскай дзяржавы. Па слядах праціўніка гетман Кішка ўварваўся ў маскоўскія воласці, узяў крэпасці Мажайск, Казельск, Веру, Калугу. Калі Масква падцягнула 15-тысячнае войска, гетман Кішка хутка адрэагаваў на з'яўленне такой значнай сілы. У сваім тыле беларускі гетман «у хітрых засадах» пакінуў аддзелы Зіновіча і двух Радзівілаў, а сам выступіў насустрач ворагу. «Масква… у вялікасьці войска свайго, вельмі ахвотна… ударыла» па беларускіх аддзелах Кішкі. Гетман у сваю чаргу пачаў адводзіць хутка сваё войска і прывёў Маскву на Зіновічавы і Радзівілавы роты, наўмысна пастаўленыя ў засадзе, а потым сам Кішка абярнуўся, а Зіновіч і Радзівілы ўдарылі па ворагу з бакоў. Дзве мілі гнала беларуска-літоўскае войска маскоўцаў, «секучы, рубячы, колючы». Гэта паведамленне «Кронікі Літоўскай і Жамойскай» асабліва каштоўнае тым, што знаёміць нас з тактыкай бою беларускіх вояроў супраць пераважаючага праціўніка.

### V

У другой палове XV стагоддзя на паўднёвых межах Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага з'явіўся моцны і небяспечны вораг – Крымскае ханства. Гэтая дзяржава ўтварылася ў выніку распаду калісь магутнай Залатой Арды. Крымскія ханы, татарская вярхушка жылі за кошт пастаянных нападаў на суседнія землі. Войны і рабункі былі заўжды іхнім рамяством і сродкам існавання. Асаблівую каштоўнасць для татараў уяўлялі палонныя, у першую чаргу маладыя і дужыя людзі, якіх яны потым прадавалі за вялікія грошы на нявольнічых рынках Крыма і Турцыі. Вялізным попытам карысталіся дзяўчынкі, якія папаўнялі ханскія і султанскія гарэмы.

Галоўным аб'ектам для сваіх спусташальных набегаў крымскія ханы абралі багатыя, урадлівыя землі свайго паўночнага суседа – Вялікага Княства Літоўскага. Апроч прагі нажывы, іх падштурхнула на тое і палітычная прычына: у 1480 годзе паміж крымскім ханам Менглі-Гірэем і маскоўскім уладаром Іванам III было заключана пагадненне аб сумеснай барацьбе з Вялікім Княствам Літоўскім. Крымскі хан паабяцаў Маскве ваяваць землі вялікага князя літоўскага Казіміра.

Першымі пад удар крымчакоў трапілі паўднёвыя землі Вялікага Княства Літоўскага – Падолле, Валынь, Кіеўшчына, Ноўгарад-Севершчына. Татары палілі гарады і вёскі, рабавалі цяжкай працай нажытае дабро, выводзілі ў палон насельніцтва. Наезды на землі Вялікага Княства рабіліся штогод, а часам некалькі разоў на год. Шматлікія мурзы і князі, ханскія сыны, маючы свае ўласныя войскі, рабілі самастойныя набегі. У 1482 годзе крымчакі, падбухтораныя Іванам III, захапілі старажытны Кіеў, спалілі Пячорскі манастыр, разрабавалі святыню ўсіх праваслаўных жыхароў Вялікага Княства Літоўскага – Сафійскі сабор. Пасля такога злачынства Менглі-Гірэй падараваў шэраг нарабаваных упрыгажэнняў з Кіеўскай Сафіі абаронцу «истинного православия» маскоўскаму князю Івану III, якія той з удзячнасцю прыняў. З канца XV стагоддзя крымскія татары ўрываліся і на тэрыторыю сучаснай Беларусі. У 1497 годзе непадалёку ад Мазыра яны забілі мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Русі Макарыя. Падчас вайны 1500–1503 гадоў паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Маскоўскай дзяржавай Іван III неаднаразова інструктаваў Менглі-Гірэя, каб крымскія загоны накіроўваліся ў бок Слуцка, Турава, Пінска, Менска з мэтай паслабіць заплечча абароны на ўсходняй мяжы Вялікага Княства Літоўскага. Карыстаючыся тым, што асноўныя сілы Вялікага Княства Літоўскага знаходзіліся на ўсходзе дзяржавы, дзе ваявалі з Масквою, крымчакі ў гэты час пастаянна пустошылі беларускія землі. У 1500 годзе яны спалілі Бярэсце і ягоныя ваколіцы, восенню 1502 года перайшлі Прыпяць і пачалі ваяваць за землі каля Турава, Пінска. Славуты слуцкі кня́з Сямён Міхайлавіч Алелькавіч перахапіў крымчакоў за 6 міль ад Бабруйска, на рацэ Уша, ушчэнт разбіў іх, вызваліўшы з няволі ўвесь палон.

У наступным 1503 годзе 6-тысячны татарскі аддзел, узначалены сынам самога хана Біці-Гірэем, прыйшоў пад Слуцк і стаў там кошам (лагерам). Распушчаныя па Беларусі татарскія загоны спустошылі ваколіцы Капыля і Нясвіжа, спалілі Клецкі замак. Даведаўшыся пра падыход вялікага войска, татары павярнулі назад і адышлі ў Крым са значным палонам. У тым жа 1503 годзе трохтысячны татарскі аддзел зноў спустошыў ваколіцы Слуцка, ваяваў непадалёку ад Навагрудка. На гэты раз ім не ўдалося вольна вярнуцца ў Крым. Войска Вялікага Княства Літоўскага на чале з Сямёнам Алелькавічам, Станіславам Кішкам, Юрыем Немiровічам і Альбрэхтам Гаштольдам дагнала татараў за мілю ад Давыд-Гарадка і разбіла іх.

У 1505 годзе крымчакі здзейснілі самы спусташальны набег на Беларусь. Тры ханскія сыны – Махмет-Гірэй, Біці-Гірэй і Бурнас, – пераправіўшыся са сваім войскам праз Дняпро ля Лоева, дзе знаходзіліся знакамітыя «татарскія броды», накіраваліся ў цэнтр Беларусі. Старэйшы царэвіч Махмет-Гірэй павёў свой аддзел у накірунку Менска і далей Полацка, Друцка, Віцебска, а ягоныя малодшыя браты пайшлі пад Слуцк. Татары спрабавалі ўзяць Слуцкі замак, але мужныя случчакі адбілі ўсе іхнія атакі. Тады Біці-Гірэй і Бурнас рушылі пад Навагрудак, але і там замкавы гарнізон на чале з намеснікам Альбрэхтам Гаштольдам і гараднічым Маскевічам прымусіў іх адступіць ад гарадскіх муроў. Татарскія загоны папалілі тады ваколіцы шмат якіх беларускіх гарадоў, пазнішчалі вёскі і вывелі ў Крым вялізны палон.

Спадзеючыся на беспакаранасць, летам 1506 года Біці-Гірэй і Бурнас на чале 30-тысячнага войска ўварваліся на Беларусь. Татары сталі кошам каля Клецка, распусціўшы загоны ў навагрудскім накірунку. Але на гэты раз яны не ўнiклі адплаты. Зрабіўшы імклівы пераход ад Ліды да Клецка, менскія, навагрудскія і гарадзенскія апалчэнцы пад кіраўніцтвам князя Міхаіла Глінскага дазвання разграмілі татараў 6 жніўня пад Клецкам. Тысячы варожых трупаў засталіся ляжаць на берагах рэк Лань і Цапра. Быў вызвалены вялікі палон у 40 тысяч чалавек, якіх крымчакі збіраліся вывесці ў свае ўладанні.

У далейшым, нягледзячы на шэраг замірэнняў з Вялікім Княствам Літоўскім, крымскія татары працягвалі пустошыць беларускія землі. Найбольш буйнымі былі іхнія набегі ў 1508, 1510, 1521, 1527 гадах. З мэтай абараніць краіну ад татарскіх нападаў, а ім спрыяла слабасць паўднёвых межаў краіны, новы вялікі князь літоўскі Жыгімонт II палічыў «узмежную старожу», узмацніў замкі і крэпасці перадавым узбраеннем і ратнымі людзьмі. У планах Жыгімонта II былі і шырокія наступальныя аперацыі супраць Крымскага ханства. Ваенныя мерапрыемствы і дыпламатычныя захады Вялікага Княства Літоўскага далі ўрэшце дзейсныя вынікі. У 1527 годзе войска Вялікага Княства Літоўскага, якім кіравалі гетман Канстанцін Астрожскі, слуцкі князь Юрый Сямёнавіч Алелькавіч (сын знакамітага Сямёна Алелькавіча) і чаркаскі ваявода Аставій Дашковіч разбілі ўшчэт 24-тысячнае татарска-турэцкае войска ля Альшаніцы, за 40 міль ад Кіева. Пасля таго як у 1530 годзе князь Іван Дубровіцкі разграміў чарговы раз крымскіх наезнікаў, якія ўварваліся на Беларусь, іхнія напады на Вялікае Княства сталі радзейшымі і менш адчувальнымі.

### VI

У канцы XV стагоддзя, калі Маскоўская дзяржава ўвабралася ў сілу і, падбіваючы суседнія землі, усутык падышла да межаў беларуска-літоўскага гаспадарства, вялікі князь маскоўскі Іван III адважыўся на адкрытую экспансію. Чыста захопніцкая палітыка была абгрунтавана тэзісам аб праве Масквы на абшары ўсёй былой імперыі Рурыкавічаў. Абвясціўшы тэрыторыі Беларусі і Украіны сваімі, маскоўскі ўладар падгаварыў крымскага хана актыўней нападаць на Беларусь з поўдня ды ў 1492 годзе распачаў першую вайну супраць Вялікага Княства Літоўскага. Адразу тры вялікія арміі з розных бакоў увайшлі ў беларуска-літоўскае гаспадарства ды хутка занялі шэраг гарадоў. Вільня зусім не чакала інтэрвенцыі і не рыхтавалася да адпору. Валікае Княства больш як паўстагоддзя наогул не ведала войнаў. Новы гаспадар Аляксандр хацеў залагодзіць канфлікт і накіраваў у Маскву паслоў са скаргамі на беспрычыннае парушэнне міру Маскоўскай дзяржавай ды прапановай спыніць вайну. Яго стараннямі ў 1494 годзе было заключана новае замірэнне, замацаванае дынастычным шлюбам: дачка маскоўскага ўладара Алена выходзіла за вялікага князя Аляксандра і пераязджала ў Вільню.

На жаль, сваяцтва манархаў не прынесла спакою ўсходнім межам Беларусі. Спачатку Іван III актывізаваў крымскіх татар, якія штогод нападалі на Вялікае Княства, а ў 1500 годзе сам распачаў чарговую захопніцкую вайну. Вялікі князь Аляксандр спрабаваў ізноў апеляваць да сумлення, пісаў цесцю, што беларуска-літоўская дзяржава не мае аніякай віны перад Масквой, прасіў не праліваць больш хрысціянскай крыві, адзначаў, што адказнасць за ўсё кладзецца на Івана III – парушальніка клятвы. Але марна. Маскоўскае войска тым часам займала новыя землі – Севершчыну, Браншчыну, гарады і воласці Смаленшчыны.

Бараніць межы краіны паспяшаўся князь Кастусь Астрожскі – найвышэйшы гетман (галоўнакамандуючы) Вялікага Княства Літоўскага. Вясной 1500 года ён сабраў у Вільні вершнікаў – каго паспеў – ды хутчэй рушыў праз Менск да Смаленска. Маскоўскія ваяводы стаялі каля Дарагабужа. Іх аб'яднаныя сілы дасягалі 40 тысяч ратнікаў, а ў Астрожскага мелася толькі 4 тысячы. Здавалася, весці 4 на 40 – самагубства! Але гетман пасля нядоўгай нарады вырашыў: «Мала ці многа масквічоў будзе, ды толькі, узяўшы Бога ў падмогу, біцца з імі, а не біўшыся – назад не вяртацца».

Сеча адбылася 14 ліпеня пад Дарагабужам. Малалікая конніца Астрожскага спачатку ашаламіла ворага атакай, але потым, сціснутыя маскоўскімі палкамі, цалкам прайграла бітву. Загінулі лепшыя вайсковыя сілы Вялікага Княства, сам гетман трапіў у палон. Гэта была першая значная перамога маскоўскага войска над беларуска-літоўскім у полі. Праўда, ваяводы Івана III мала пакарысталіся такім поспехам. Яны займаліся пераважна спусташэннем воласцяў.

Тым часам Вялікае Княства падпісала унію з Польшчай, заключыла дыпламатычны саюз з ордэнам і Заволжскай ардой і гэтым прымусіла Маскву пайсці на перамовы. У 1503 годзе Масква і Вільня падпісалі дамову аб замірэнні на 6 гадоў. Па ўмовах змірэння, беларуска-літоўскае гаспадарства страчвала вялізныя тэрыторыі з гарадамі Чарнігаў, Ноўгарад-Северскі, Бранск, Любеч, Старадуб, Мцэнек, нават Гомель ды іншыя. Але і на гэты раз мір пратрываў нядоўга.

Чарговая, трэцяя па ліку, вайна пачалася ўжо ў 1506 годзе, калі Васіль III кінуў на край два шматтысячныя злучэнні, якія пустошылі Беларусь па Бярэзіну. У 1508 годзе ён прыслаў маскоўскія палкі пад Бабруйск на дапамогу здрадніку князю М.Глінскаму, каб на гэты раз зваяваць Беларусь супольна з бунтаўнікамі. Разам яны аблажылі Менск і адсюль рабілі спусташальныя рэйды ажно да Слоніма. Толькі з'яўленне К.Астрожскага, які ўцёк з маскоўскага палону, змусіла 30-тысячную армію непрыяцеля адступаць да Оршы, а пасля, збаяўшыся бітвы, і зусім пакінуць межы Беларусі. Восенню 1508 года маскоўскі манарх падпісаў новае пагадненне аб міры з Вялікім Княствам Літоўскім. Аднак ізноў нядоўга трываў без вайны.

Ужо на лета 1512 года стала вядома, што вялікі князь маскоўскі рыхтуе чарговую інтэрвенцыю разам з Нямецкім ордэнам. Восенню галоўныя сілы Васіля III аблажылі Смаленск, а іншыя палкі пайшлі на Оршу, Друцк, пустошылі край ажно да Менска і Віцебска. Не авалодаўшы Смаленскам, але страціўшы падчас аблогі нямала жывой сілы, маскоўскі ўладар адвёў войска, а летам 1513 года распачаў новую наступальную кампанію. На гэты раз у дапамогу яму Святая Рымская імперыя прыслала сваю пяхоту і артылерыю. Пад Смаленскам зграмадзілася каля 80 тысяч ратнікаў. Але смаленцы настолькі мужна адбіваліся, што Васіль III праз колькі месяцаў мусіў зняць безвыніковую аблогу. Трэці смаленскі паход быў прызначаны на лета наступнага года. Маскоўская дыпламатыя разам з імператарам Максімільянам утварылі ваенную кааліцыю з сямі дзяржаў супраць Вялікага Княства Літоўскага і Кароны Польскай. У Маскве хаўруснікі вырашылі пасля перамогі падзяліць заваяваныя абшары: Васіль III забраў бы беларускія і ўкраінскія, а Максімільян I – польскія.

80-тысячнае войска прыйшло пад Смаленск у ліпені 1514 года і пачало няспынны абстрэл горада з 300 гармат. Праз колькі тыдняў абаронцы з палаючых умацаванняў папрасілі спыніць абстрэл, а яшчэ па якім часе згадзіліся капітуляваць на льготных умовах. Акрыленыя поспехам, маскоўскія ваяводы паспяшаліся ўглыбкі Беларусі. Страта галоўнай фартэцыі на ўсходзе ашаламіла Вялікае Княства Літоўскае. Пасля Смаленска паддаліся Мсціслаў, Крычаў, Дуброўна.

Войска Вялікага Княства – каля 35 тысяч – толькі падыходзіла да Бярэзіны. Ваяводы Васіля III, маючы больш чым двайную перавагу ў сіле, вырашылі даць генеральную бітву, каб цалкам разграміць харугвы К.Астрожскага і тады ўжо гаспадарыць у зусім безабароннай краіне. Яны зграмадзіліся за Дняпром на беразе рачулкі Крапіўны, што паміж Оршай і Дуброўнай. На досвітку 8 верасня 1514 года перад імі з'явіліся шыхты войска К.Астрожскага. Пачалася бітва, ад якой залежаў гістарычны лёс беларусаў ды іншых народаў Вялікага Княства Літоўскага.

Гетман найвышэйшы, род якога паходзіў з турава-пінскіх князёў, бліскуча скарыстаў сваё тактычнае майстэрства і дазвання разграміў агромністую армію Маскоўскай дзяржавы. Гэтая перамога стала абаронай суверэнітэту краіны. Святая Рымская імперыя адмовілася ад ваеннага блока з Масквой, і ўвесь небяспечны альянс развaліўся. Пра перамогу К.Астрожскага над Масквой уведала ўся Еўропа. Яе святкаваў сам Папа Рымскі, а імператар Максімільян стаў абаронцам інтарэсаў Вялікага Княства Літоўскага на Захадзе. У 1518 годзе, пераконваючы магістра Нямецкага ордэна не дапамагаць Маскве весці захопніцкія войны, ён напісаў: «Цэльнасць Літвы (*чытай – Вялікага Княства Літоўскага*) карысна для ўсёй Еўропы, магутнасць Масковіі – небяспечная». Славутая бітва на Крапіўне ўвайшла ў еўрапейскія хрэстаматыі па ваеннай гісторыі як узор перамогі малалікага войска над колькасна пераважаючым ворагам. А на Беларусі Аршанскую бітву апявала гістарычная народная песня, услаўлялі летапісцы. Гетмана К.Астрожскага называлі Сцыпіёнам, Ганібалам, а ягоных вояроў параўноўвалі са славутымі македанянамі.

Пасля смерці ваяўнічага Васіля III беларуска-літоўскае гаспадарства паспрабавала сілай забраць назад землі, захопленыя Маскоўшчынай у папярэдніх войнах. Яно ўльтыматыўна запатрабавала ад Масквы вярнуць Севершчыну і Смаленшчыну. Калі ж атрымала адмову, вялікі князь Жыгімонт у жніўні 1534 года скіраваў адно войска на Смаленск, другое – на северскія гарады. Але наяўных сіл было замала, каб дамагчыся значнага поспеху. Лепш падрыхтаваная Маскоўская дзяржава, якая мабілізавала на вайну ці не ўвесь свой патэнцыял, кінула на Беларусь тры арміі – ад Пскова, Смаленска і Старадуба. Абмінуўшы гарады і замкі, яны дайшлі ажно да Браслава і Навагрудка, рабуючы і спальваючы, забіваючы і хапаючы ў няволю. Тады на лета Вялікае Княства правяло новую наступальную кампанію: вызваліла Гомель, затым іншыя гарады, заняло ўсю Северскую зямлю. Але маскоўскія ваяводы зноў ударылі па Беларусі – пустошылі Полаччыну, Падняпроўе. Войска Вялікага Княства пакінула занятыя землі і вярнулася, утрымаўшы за сабой адзін Гомель. У 1537 годзе дайшло да падпісання пяцігадовага замірэння. Толькі Гомель і быў вернуты Беларусі.

*(Працяг у наступным нумары.)*

ПАМЯЦЬ

# Днямі Беларусь адзначыла 95-годдзе народнага пісьменніка Васіля Быкава

*Успамінаць пра слыннага сына нашай зямлі можна бясконца. Чытачы «Народнай Волі» памятаюць многія яго артыкулы, апавяданні, эсэ, прыпавесці і нават аповесці на старонках нашага выдання. Шкада, вельмі шкада, што вось ужо 16 гадоў няма сярод нас выдатнейшага пісьменніка і франтавіка. Сёння журналіст Сяргей Ваганаў прапануе запісаную некалі гутарку пра ўрокі жыцця* ***Васіля Быкава*** *двух яго знакамітых сябраў –* ***Генадзя Бураўкіна*** *і* ***Валянціна Тараса****.*

# УРОКІ БЫКАВА: УЧОРА, СЁННЯ, ЗАЎТРА

Мінула шаснаццаць гадоў з дня, калі прыйшла сумная вестка з таго поля бою, дзе франтавік Васіль Быкаў, які выжыў усім смярцям наперакор, станавіўся пісьменнікам, а пісьменнік, не адступіўшы ні кроку назад, заставаўся на ўсё адваяванае ім жыццё франтавіком.

Якім ён быў, Васіль Быкаў? Чаму яго называюць сумленнем нацыі? Што азначаюць для нас, для краіны, для народа яго творчасць, яго пісьменніцкія і чалавечыя паводзіны ў зменлівых жыццёвых абставінах, што выпалі на яго долю? Што азначаюць, урэшце, для нас гэтыя гады без яго? Ці балюча нам? А калі не балюча, то ці не мёртвыя мы?..

Хочацца верыць, што ў краіне мала знойдзецца людзей, абыякавых да Васіля Быкава і ягонай памяці. Некаторыя з іх вядомыя. Але нават пра іх не скажаш, што яны абыякавыя. Не, яны ўжо не называюць яго «літаратурным паліцаем», гэты нумар не прайшоў. Яны проста называюць яго «злосным пісьменнікам», насміхаючыся над тым, ад чаго ён пакутаваў. Яны думаюць, што людзі перастануць чытаць Быкава, а потым і зусім забудуць. Ці магчыма такое?

З падобнымі пытаннямі я ў 2005 годзе прыйшоў да людзей, якія лепш за кагосьці ведалі Васіля Быкава, бо на працягу паўстагоддзя былі не толькі яго паплечнікамі па літаратуры, але і блізкімі сябрамі. Яны таксама занялі ўжо сваё месца ў пантэоне беларускай гісторыі. У мяне захаваўся запіс той гутаркі. І праз гады, калі «ўчора» яшчэ далей адышло ў мінулае, а «заўтра» перамясцілася ў «сёння», не перашкодзіць, на мой погляд, да яе вярнуцца. Каб не толькі ўспомніць, але і задумацца…

Генадзь БУРАЎКІН і Валянцін ТАРАС гутараць з намі пра Быкава.

**Сяргей ВАГАНАЎ.**

## «Іх яшчэ няма – гадоў без Быкава»

*Абодва ў адзін голас пачалі з прызнання, як не хапае ім размоў з сябрам, часам не хапае вельмі востра.*

**Тарас:** – Здарыцца ў жыцці нейкае паскудства ці, наадварот, што-небудзь спадзеўнае – цягнешся да тэлефона… Часам думаеш: вось набярэш нумар і трапіш у той час, калі ты быў яшчэ малады, а Васіль – незнакаміты…

**Бураўкін:** – Так, сяброўства наша, на шчасце, пачыналася тады, калі Васіль яшчэ не быў славуты, быў проста Васіль. І чым далей расла, шырылася, разыходзілася кругамі яго слава, тым больш трапляла ў яе арбіту людзей. І годных, і нярэдка выпадковых. Але наша пачатковае сяброўскае кола, куды ўваходзілі Рыгор Барадулін, Навум Кіслік, Аляксандр Дракахруст (можна назваць і другія імёны), ён усё жыццё захоўваў, не мяняў…

**Тарас:** – Мне пашанцавала: гэтыя два гады я не разлучаўся з Васілём, працуючы над перакладам і выданнем яго апошняй кнігі «Доўгая дарога дадому». Самае цяжкае і мярзотнае, звязанае для мяне з гэтай гісторыяй, у тым, што адно маскоўскае выдавецтва, дзе рукапіс праляжаў амаль год, выставіла дзве абсалютна непрымальныя ўмовы: прыбраць, з іх гледзішча, «антырасійскія выказванні» (непрыемна, маўляў, нават калі Быкаў мае рацыю) і раздзелы пра беларускі літаратурны асяродак (ён расійскаму чытачу, маўляў, нецікавы). Гэта тое самае, калі б я сказаў, што мне нецікавы маскоўскі літаратурны асяродак, асяродак, напрыклад, Юрыя Трыфанава… Я забраў рукапіс, кніга ў поўным аб'ёме павінна была выйсці літаральна днямі ў другім выдавецтве. Але яшчэ ніколі ў жыцці я не адчуваў такога маральнага абавязку перад чалавекам, якога ўжо няма. Вось яго няма, а ён больш, чым ёсць. Каб быў жывы, можна было шукаць кампраміс… Ай, сказаў бы, Валя, кінь, перажывём…

**Бураўкін:** – Іх яшчэ няма – гадоў без Быкава. Ва ўсіх сэнсах. Друкуюцца яго творы з працоўнага стала, ліставанне… Ён наўпрост удзельнічае ў літаратурным працэсе, жыве ў ім, уплывае на яго. Чаму яшчэ такое пачуццё, што Быкаў з намі? Таму што ўлады да гэтай пары з ім змагаюцца. І нават горшымі метадамі, чым з жывым. Ёсць такі маральны закон: з мёртвым нельга абысціся так, як магчыма абысціся з жывым. Дык вось – яны змагаюцца з ім як з жывым. І тым самым прызнаюць, што яго творчасць, яго публіцыстыка, яго пазіцыя – жывыя… Да гэтай пары ў дзяржаўным выдавецтве «Мастацкая літаратура» не выйшаў даўно запланаваны першы том яго збору твораў. А ў ім жа рэчы, кананізаваныя яшчэ ў савецкі час…

**Тарас:** – Гляджу БТ напярэдадні Дня Перамогі. Двое пісьменнікаў у «Панараме» гавораць, і цалкам справядліва, што беларуская проза найяскравей з усіх літаратур адлюстравала подзвіг народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Называюць розныя імёны, у тым ліку свае, а пра Быкава – ні слова…

**Бураўкін:** – Я таксама пільны глядач некаторых тэлепраграм. Рэпартаж з Масквы па федэральным расійскім тэлеканале. «Выдающийся летописец Великой Отечественной войны…» – гэта пра Быкава. Сказана з разлікам на ўвесь свет, бо прадстаўнікі многіх краін былі ў той дзень на Краснай плошчы. А на беларускім тэлебачанні Быкаў быў не проста забыты. Ён быў праігнараваны… Ведаеш, чаму? Баяцца. Яны баяцца яго суда. Маральнага суда. Хоць мантыю суддзі Васіль ніколі на сябе не адзяваў…

## Суд Быкава

*Далей размова пайшла пра тое, чаму Васіля Быкава называюць сумленнем нацыі, пра яго права чыніць маральны суд.*

**Тарас:** – Вось мы кажам – суд Быкава. Ён зазлаваў бы, каб гэта пачуў. Альбо – сумленне нацыі…

**Бураўкін:** – У літаратуры кожнага народа ёсць асобы, якія валодаюць вялізным маральным аўтарытэтам. Некаторыя дасягаюць сусветных маштабаў, Леў Талстой, напрыклад, а ў сённяшняй рускай літаратуры – несумненна, Аляксандр Салжаніцын. Але пры ўсёй павазе да яго, прызнаючы яго сапраўды выдатныя заслугі перад літаратурай і грамадствам, нельга не бачыць, як, асабліва апошнім часам, ён свядома прымярае на сябе мантыю суддзі, уваходзіць у ролю нейкага месіі ці прарока. Магчыма, гэта толькі здаецца. Але што тычыцца Васіля – у ім ніколі не было і ценю самаўзвялічвання, хоць, вядома ж, цану сабе ён ведаў. Ён жыў натуральным жыццём чалавека, беларуса, пісьменніка. Ён проста гаварыў праўду. І таму вельмі часта быў празарліва праўдзівым. Ён выходзіў і гаварыў тое, што думаў, у чым быў упэўнены, што сам перажыў. Яго слова і станавілася тым судом, пра які мы гаворым.

**Тарас:** – Калі сталі гаварыць пра яго як пра сумленне нацыі? У той час, калі праўду, толькі праўду, нічога, апрача праўды, гаварыў у нашай літаратуры адзін Быкаў. У астатніх былі нейкія кампрамісы, паўкампрамісы, яны штосьці недагаворвалі… Помню яго выступленне на 6-м з'ездзе Саюза пісьменнікаў СССР дзесьці ў канцы 1960-х. Яно потым стала самвыдатаўскай пракламацыяй, разышлося па ўсім Саюзе. Прызнаюся, пасля таго выступлення ў абарону праўды я сам больш рашуча расплываўся з некаторымі асцярожнасцямі…

**Бураўкін:** – Справа не толькі ў тым, што Быкаў смела гаварыў. Былі людзі, якія, магчыма, выступалі яшчэ больш смела. Але Васіль гаварыў з такой годнасцю, і яго голас быў так далёка чутны!.. А веры яму ва ўсім свеце было больш яшчэ і таму, што ён быў чалавекам удумлівым і знешне спакойным. Вельмі глыбокі характар…

**Тарас:** – Я параўнаў бы Быкава з селянінам, які ўзараў поле, збаранаваў, засеяў, зжаў, абмалаціў, змалоў і ведае, чым ёсць хлеб, які ён дае людзям. Таму ён пра хлеб гэты і гаворыць з вялікай годнасцю. І спакойна, не мітусіцца. Чаго яму мітусіцца? У яго вунь мазалямі набраклі рукі. І таму ён сумленне нацыі. Бо ён даў людзям хлеб, народжаны ў пакутах.

**Бураўкін:** – Для мяне адзін з урокаў Быкава цяпер, калі яго няма, – у паводзінах. Ён у сваіх паводзінах ніколі не губляў годнасці і не ставіў сябе вышэй за другіх. Ёсць такая слабасць у пісьменнікаў: Я і час, Я і Леў Талстой… У Быкава – Час і я… Леў Талстой і я... Ён жа надзвычай сціплы і сумленны чалавек. Вы можаце ўявіць сабе несумленнага, хай сабе і вельмі таленавітага, чалавека сумленнем нацыі? А Быкаў быў чалавекам абсалютна цэласным – і ў жыцці, і ў літаратуры…

**Тарас:** – Ён быў сапраўдным экзістэнцыялістам. Нездарма ён так любіў Альбера Камю. Сумленне было яго крытэрыем. Ва ўсім. Сумленне, калі хочаце, было нават яго эстэтычным крытэрыем.

**Бураўкін:** – Ён жа, у прынцыпе, быў вельмі далёкі ад палітыкі. Усёй сваёй чалавечай і мастакоўскай сутнасцю. Але ён кінуўся ў вір палітыкі, бо ў ім жыло высокае сумленне народа. Калі ён убачыў, што ў народа з'явілася надзея на нармальнае чалавечае, дзяржаўнае, культурнае развіццё і гэту надзею дамарослыя мастадонты гатовы вось-вось растаптаць, ён безаглядна кінуўся ў палітыку. Раней ён штогод выдаваў аповесць. А тут – нічога, апрача артыкулаў і выступленняў. І гэта яшчэ адзін урок Быкава: нават талент такой вышыні ахвяруе, па сутнасці, сабой, калі адчувае, што слова, сказанае сёння, больш патрэбнае людзям за слова, сказанае назаўсёды.

**Тарас:** – А прыпавесці!

**Бураўкін:** – Так, гэта тое, да чаго прыйшоў Быкаў у канцы свайго творчага і зямнога шляху. А пра яго ж гаварылі – пісьменнік адной тэмы, варыяцый на адну тэму. Потым сталі гаварыць, што пайшоў не ў свой жанр. Лухта. Ды вы толькі ўчытайцеся ў тыя прыпавесці: якая мудрая – талстоўская – прастата і глыбіня ў асэнсаванні гісторыі народа і яго будучага лёсу! І гэта таксама ўрок Быкава як пісьменніка – не пабаяцца сказаць народу тое, што яго чакае, калі ён будзе жыць так, як жыве…

**Тарас:** – Шлях Быкава да прыпавесці – гэта як шлях да Евангелля. Не ў сэнсе верапавучанняў, а ў сэнсе гранічна простай, сумленнай, заснаванай на праўдзе шчырасці, назапашанай табой мудрасці. Шлях да Евангелля як да маральна-этычнай і мастакоўскай вяршыні, калі сказанае табой горкае Слова становіцца зразумелым і бамжу, і прафесару матэматыкі…

## Быкаў і ўлада

*Далей размова пайшла пра адносіны Быкава і ўлады. І ўчарашняй, і сённяшняй. Усё гучней чуюцца ціхія пры яго жыцці папрокі ў тым, што Быкаў не так ужо кепска ўжываўся з уладай, якую ненавідзеў, прымаў ад яе ўзнагароды і знакі ўвагі…*

**Бураўкін:** – Гэта міф, што Быкаў ненавідзеў уладу. Гэта ўлада спачатку ненавідзела Быкава, а потым вымушана прызнала яго талент і заслугі. Сам ён ніколі не быў дысідэнтам, што робіць гучныя палітычныя заявы і здзяйсняе гучныя ўчынкі. Яго ўчынкам было Слова. Слова праўды, якое заўсёды гучнейшае за палітычныя літаўры. А да ўлады ён адносіўся як да непазбежнай рэальнасці. Але ніколі перад ёй не прыніжаўся, ніколі на яе не працаваў… Чаму гэта ён павінен быў адмаўляцца ад Ленінскай прэміі і Зоркі Героя Працы – найвышэйшых тады ўзнагарод?! Ён што, іх не заслужыў? Яны маглі называцца па-іншаму. Але ж не назавеш па-іншаму «Знак бяды»… Успомні, калі Быкаву давалі ўзнагароды, ён хоць у нечым…

**Тарас:** – …запабягаў…

**Бураўкін:** – …так, запабягаў перад уладай ці яе на той момант прадстаўнікамі? Не было такога. Вось калі б ён выпрошваў узнагароды, як гэта адбывалася заўсёды і адбываецца сёння…

**Тарас:** – Вось цікава: я не помню, каб у савецкія гады ўлада па-жлобску папракала Васіля за ўзнагароды. Маўляў, мы цябе ўзнагародзілі, а ты ўсё паклёпнічаеш… Цярпела, бо разумела, нутром адчувала: Быкаў – гэта назаўсёды.

**Бураўкін:** – Любая ўлада хоча выглядаць перад светам прыгожа. І калі яна гаворыць, што вось Быкаў намі адзначаны, то гуляе за сябе. Але гэта не азначае, што Быкаў гуляе за ўладу. На жаль, сённяшняя ўлада нават гэтага не разумее. Дастаткова ўспомніць яе адносіны да Быкава і пры яго жыцці, і на пахаванні, і пасля. Неадукаванасць і дробная помслівасць – вось чым характарызуюцца тыя адносіны. Але ж да сваіх апанентаў, нават непрымірымых, цывілізаваная ўлада адносіцца з павагай. Не, ад сённяшняй улады ён узнагарод не прыняў бы. Зрэшты, дзякуй Богу, яму ніхто іх і не прапаноўваў…

## Быкаў і выбар

*Пройдзе дваццаць, пяцьдзясят гадоў… Ці застанецца Быкаў тым маральным камертонам і ў прыватным чалавечым жыцці, і ў жыцці краіны, грамадства, якім успрымаюць яго сёння вельмі многія? Тым больш што ўсе мы, увесь народ, стаім перад гістарычным выбарам, найперш маральным. Ці стане народны пісьменнік усенародным? У тым сэнсе, што кожны, хто любіць, глыбока адчувае і разумее Васіля Быкава, здольны распазнаць хлусню. І выбар свой робіць адзіна на той аснове, незалежна ад ідэалагічных і палітычных перакананняў. Ці прыйдзе час, калі многа, вельмі многа, маса людзей знойдуць у Быкаве маральную падтрымку свайго выбару?..*

**Бураўкін:** – Наш беларускі народ да гэтай пары не прачытаў, удумліва, глыбока і сумленна не прачытаў Васіля Быкава. І я са страхам думаю пра тое, што ідзе пакаленне, якое не тое што перачытваць – увогуле чытаць нічога і нікога не будзе. Ні Быкава, ні Пушкіна, ні Салтыкова-Шчадрына, ні Сервантэса, ні Талстога… Я да гэтай пары не магу адысці ад болю, якім пранізаны словы Быкава ў адным з яго апошніх лістоў: «І наогул, Генадзь, каму яна патрэбна, гэта літаратура?..»

**Тарас:** – Калі захаваецца тая мараль, тыя крытэрыі сумлення, якіх прытрымліваўся сам Васіль Быкаў, то, несумненна, ён застанецца тым маральным камертонам, які будзе ўсё гучней гучаць у грамадстве. Але я не адважуся прадказваць, што адбудзецца з грамадствам хоць бы ў бліжэйшую чвэртку стагоддзя. Прыходзіць зусім новае пакаленне, і я не ўпэўнены, ці застанецца Быкаў і ўвогуле ўся тая літаратура, прыцягальным ядром якой ён быў. Я не ўпэўнены, бо ідзе са страшнай сілай разбурэнне ўсяго, што здавалася вечным.

*На маю заўвагу, што трэба неяк гэтаму супрацьстаяць, абодва суразмоўцы ў адзін голас адказалі:*

– Вось мы і супрацьстаім. Спрабуем. Хоць бы гэтай сённяшняй гутаркай.

*2005 г.*

СВЕТ І МЫ

## Появился третий владелец капитала в 100 млрд долларов

Это президент группы компаний Louis Vuitton Moët Hennessy (LVMH) и ее основной владелец французский бизнесмен **Бернар Арно.**

С начала 2019 года состояние Арно благодаря росту стоимости акций LVMH (на 43%) выросло почти на 32 млрд долларов, что позволило ему резко улучшить свое положение в рейтингах миллиардеров. Таким образом общее число «стомиллиардеров» (centibillionaire, как называет их Bloomberg) в мире выросло до трех. Ранее людей этого титула удостоились основатель Amazon Джефф Безос и основатель Microsoft Билл Гейтс.

## Названы имена подозреваемых и дата суда

В 2014 году над Донбассом был сбит «Боинг». Погибли все 298 человек, находившихся на борту. На днях Международная следственная группа (JIT) назвала четырех подозреваемых по этому делу: трое граждан России и один гражданин Украины.

Им предъявлены обвинения по двум статьям Уголовного кодекса Нидерландов: в том, что они сбили самолет, и в убийстве людей. Все они объявлены в международный розыск.

Главные подозреваемые – россияне **Игорь Гиркин**, бывший министр обороны и глава ГРУ непризнанной ДНР, **Сергей Дубинский**, бывший подполковник Вооруженных сил РФ, **Олег Пулатов,** подполковник запаса ВДВ армии России, и гражданин Украины, начальник разведывательного батальона ГРУ самопровозглашенной ДНР **Леонид Харченко**.

Подозреваемых связывают с доставкой из России в Донбасс сепаратистам ЗРК «Бук», из которого, по данным следствия, был произведен запуск ракеты, сбившей самолет «Малайзийских авиалиний» 17 июля 2014 года.

Их цель в этот период состояла в том, чтобы укрепить позиции за счет украинского государства и его вооруженных сил. Во время этих сражений использовалась противовоздушная оборона. Следственная группа полагает, что четырех подозреваемых «связывают общий план, служба и совместные действия, что в июле 2014 года привело к тому, что самолет, летевший рейсом MH17, был сбит».

Судебный процесс по делу о гибели 298 пассажиров и членов экипажа «Боинга» должен начаться 9 марта 2020 года.

Как известно, сразу после катастрофы Киев обвинил в случившемся сепаратистов. Те ответили, что не располагают средствами, которые позволили бы сбить воздушное судно на такой высоте. Следствие при этом считает, что зенитно-ракетный комплекс «Бук» был доставлен в Донбасс из России.

Москва же отвергает обвинения в отправке военных и оружия в зону конфликта.

## Первый визит в Польшу

Избранный президент Литвы Гитанас Науседа свой первый визит совершит в Польшу 16 июля, спустя несколько дней после официального вступления в должность. По словам министра иностранных дел Литвы Линаса Линкявичюса, помимо Польши приоритетными направлениями визитов нового президента Литвы будут страны Балтии, государства Евросоюза (ЕС) и НАТО.

## 40 миллионов долларов на демократические реформы

Палата представителей Конгресса США утвердила инициативу американского конгрессмена Джеки Спир по выделению Армении дополнительной финансовой помощи в размере **40 млн** долларов на реализацию демократических реформ.

## Трамп хочет поладить с Россией

Президент США **Дональд Трамп** намерен встретиться со своим российским коллегой **Владимиром Путиным** на полях саммита Большой двадцатки (G20), который пройдет в японской Осаке 28–29 июня.

«Я хочу поладить с Россией», – заявил Трамп в интервью телеканалу Fox News. Как известно, *в ноябре 2018 года президент США отказался от запланированной встречи с Путиным на саммите G20 в Аргентине. Трамп объяснил свою позицию обострением отношений Москвы и Киева после инцидента в Керченском проливе.*

## Новый рекорд

**Число беженцев** в мире в 2018 году впервые после окончания **Второй мировой войны** достигло отметки в **70,8 млн** человек. Это следует из доклада о беженцах в мире, представленного Управлением Верховного комиссара ООН по делам беженцев (УВКБ ООН) 19 июня в Берлине и Женеве.

ГІСТОРЫЯ АДНОЙ ФАТАГРАФІІ

# У красавіку 1991-га…

Добра памятаю красавік 1991 года, калі рабіўся гэты здымак. Падчас выбарчай кампаніі ў Вярхоўны Савет БССР 12-га склікання чарнобыльская бяда была асабліва на слыху ва ўсіх. Цяпер добра вядома, якія намаганні былі з боку савецкага КГБ, а з яго падачы і партыйных улад СССР, каб не даць праўдзівай інфармацыі пра тое, што адбылося за пяць гадоў перад гэтым у Чарнобылі, а галоўнае – да якіх наступстваў для мільёнаў чалавечых жыццяў яно вяло (зрэшты, вядзе і цяпер…). У той жа час ішлі асабліва бурныя дыскусіі, у якіх удзельнічалі не толькі кіруючыя асобы, вучоныя-ядзершчыкі, але і значная частка абуджанага беларускага грамадства. Нас, дэпутатаў, якія стаялі на платформе Беларускага Народнага Фронту, літаральна закідвалі пісьмамі, спынялі на вуліцах з пытаннямі: «Што рабіць? Што будзе з намі? З усёй Беларуссю?» Не адзін раз даводзілася выязджаць і ў тыя мясціны Гомельшчыны і Магілёўшчыны, дзе бяда адчувалася асабліва востра. Хто ведае, ці не сталі гэтыя паездкі прычынай заўчаснай смерці ад анкалагічных захворванняў нашых бліжэйшых калег – бліскучага журналіста Ігара Герменчука, народнага кантралёра, адважнай жанчыны Галіны Сямдзянавай?.. У самае горшае, вядома, верыць не хацелася, але спецыялісты-эксперты не выключалі такога развіцця падзей, што з Беларусі давядзецца папросту вывезці – і пажадана на іншы бок Атлантычнага акіяна – калі не ўсё наша насельніцтва, дык вялікую яго частку.



Вось у сувязі з гэтым адразу пасля заканчэння першай сесіі Вярхоўнага Савета ў ліпені 1990 года пасля прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР лідар Беларускага Народнага Фронту і яго парламенцкай фракцыі Зянон Пазьняк актыўна заняўся арганізацыяй візіту дэлегацыі апазіцыйных дэпутатаў за акіян, у ЗША і Канаду. Сказаць, што ва ўладных кабінетах (не кажу пра інфармаванасць звычайных людзей) гэтых дзяржаў тэма Чарнобыля як тэхнагеннай катастрофы сусветнага маштабу ўспрымалася тады належным чынам, было б вялікім перабольшваннем. Масава распаўсюджаная ў той час у заходнім свеце ілюзія, нібыта «Гарбачоў – вялікі дэмакрат і ён не можа маніць свету пра тое, што адбываецца ў СССР», адыгрывала сваю негатыўную ролю. Не ўсё проста было і ўнутры камуністычнага (у той час на 86%) Вярхоўнага Савета БССР. Кіраўнік Пастаяннай камісіі па чарнобыльскіх пытаннях, наогул вельмі прыстойны партыйны дзеяч, светлай памяці Іван Смоляр, даведаўшыся пра запланаваную паездку дэпутатаў ад БНФ за акіян, успрыняў гэта на самым пачатку балюча-раўніва: ёсць, маўляў, спецыяльная парламенцкая камісія, а што тут за самадзейнасць вы спрабуеце ўчыніць?.. Тым не менш нам удалося дамовіцца са Смолярам пра неабходны ўзровень падтрымкі нашых намаганняў, калі яны, вядома, прынясуць нейкі плён. Дзеля справядлівасці: не скажу што такую падтрымку мы атрымалі ад Станіслава Шушкевіча, які ўжо займаў на той момант пасаду першага намесніка старшыні Вярхоўнага Савета: ён, як мне падалося, быў перакананы ў поўным дылетанцтве ў чарнобыльскім пытанні ўсіх членаў вызначанай апазіцыйнай дэлегацыі. Дарэчы, у яе склад з ініцыятывы Зянона Пазьняка былі ўключаны навуковец, абраны на другім з'ездзе БНФ у склад найвышэйшага кіраўніцтва арганізацыі, Уладзімір Заблоцкі, а таксама аўтар гэтых радкоў, бо Пазьняку патрабаваўся, найперш для нефармальных кантактаў падчас запланаванай паездкі, чалавек, які адносна свабодна валодаў бы англійскай мовай. Спецыялісты – фізікі і эколагі – падрыхтавалі шэраг тэкставых матэрыялаў, а журналісты далучылі да іх набор фотаздымкаў, якія ілюстравалі тое, што адбываецца ў найбольш забруджаных рэгіёнах Беларусі (на некаторыя здымкі з невылечна хворымі дзецьмі было немагчыма глядзець без слёз).

Падрыхтоўка самой паездкі не была такой хуткай, як меркавалася напачатку, але ўрэшце было дамоўлена, што арганізацыі беларускай дыяспары ў ЗША і Канадзе прымуць і забяспечаць неабходным нашу дэлегацыю на працягу ўсяго красавіка 1991 года. Вылецець з савецкай імперыі за акіян звычайным людзям у той час было магчыма толькі з Масквы або Ленінграда, і мы абралі больш танны варыянт, адправіўшыся ў Нью-Ёрк з піцерскага аэрапорта Пулкава. Прылёт у аэрапорт імя Джона Кенэдзі запомніўся тым, што было адразу пасля яго: нас вельмі цёпла сустрэла вялікая дэлегацыя амерыканскіх беларусаў на чале з Янкам Запруднікам і Вітаўтам Кіпелем. Ужо літаральна назаўтра мы адправіліся ў нью-ёркскі Калумбійскі ўніверсітэт рыхтавацца да публічнай лекцыі пра Чарнобыль і яго наступствы для Беларусі і Еўропы. У самы першы дзень нашага знаходжання за акіянам мы скантактаваліся і дамовіліся пра поўнае ўзаемнае спрыянне з нашым знакамітым паэтам і дзяржаўным дзеячам Генадзем Бураўкіным, які ў той час ужо быў пастаянным прадстаўніком БССР пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Нью-Ёрку.

Далей пэўныя карэктывы ў нашы першапачатковыя планы ўнеслі падзеі на радзіме: 4 красавіка ў цэнтры беларускай сталіцы адбылося шматтысячнае шэсце працаўнікоў мінскіх заводаў, удзельнікі якога пратэставалі супраць палітыкі саюзнага ўрада. Першым памкненнем Зянона Пазьняка было неадкладна вяртацца ў Мінск, і арганізоўваць падтрымку рабочаму руху. Аднак неаднаразовыя (і вельмі нятанныя на той час!) тэлефонныя размовы лідара Фронту з адным з кіраўнікоў страйкавага камітэта, нашым калегам-дэпутатам Сяргеем Антончыкам, а таксама з тымі кіраўнікамі БНФ, што заставаліся ў Мінску, прывялі нас да высновы: наша місія вельмі важная, і адкладваць яе выкананне на няпэўны час у кантэксце ўсіх падзей было б няправільна. Тым больш што праграма лекцый, сустрэч з заакіянскімі палітыкамі была складзена загадзя. І мы пачалі выконваць гэтую праграму: адбыліся лекцыі ва ўніверсітэтах, дзясяткі сустрэч з кангрэсменамі, прадстаўнікамі мясцовага самакіравання, урэшце, з беларусамі, многія з якіх не былі на Радзіме па сорак і болей гадоў…

У другой палове сакавіка мы пераехалі ў Канаду, дзе намаганнямі тагачаснага кіраўніка Згуртавання беларусаў Канады (ЗБК) Міколы Ганька ды яго калег ужо вельмі актыўна дзейнічала дабрачыннае Таварыства дапамогі дзецям – ахвярам Чарнобыльскай катастрофы. Самыя ж важныя перамовы трэба было весці ў канадскім парламенце ў Атаве, і тут неацэннай дапамогай стала тая акалічнасць, што адна з самых актыўных дзячак Згуртавання беларусаў Канады, будучы старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонка Сурвілла мела досвед працы парламенцкай перакладчыцай і, што называецца, знутры ведала ўсе кабінеты і кулуары канадскага парламента. Да таго ж Івонка разам са сваім мужам Янкам жыла літаральна на другім беразе ракі Атавы, у франкамоўным горадзе Юль-Гаціно, і мы, усе чацвёра гасцей (разам з Міколам Ганькам), з радасцю прынялі запрашэнне пажыць некалькі дзён у гасцінным доме сям'і Сурвілла.

Там жа падчас першай супольнай вячэры мы пазнаёміліся з вельмі прыемным маладым чалавекам, які сказаў нам, што мае там, у Юль-Гаціно, невялікае фотаатэлье і што для яго будзе гонарам зрабіць фірмовае прафесійнае фота ўсіх разам. На жаль, памяць не ўтрымала, як звалі таго маладога чалавека, але візіт у яго атэлье запомніўся. Пакольку нагодай нашага прыезду ў Канаду былі не надта вясёлыя чарнобыльскія справы, ён выбраў для здымка строгі фон, а назаўтра ўручыў кожнаму з нас па асобніку здымка ў альбоме чорнага колеру.

Вось жа, паглядзім на фота і ўзгадаем пра лёс тых асоб, якіх можна на ім бачыць. Злева ў першым шэрагу – **Уладзімір Заблоцкі**. Інжынер мінскага Навукова-даследчага інстытута ЭВМ, ён быў выбраны ў Вярхоўны Савет 12-га склікання з дапамогай суполкі Народнага Фронту, што дзейнічала па месцы яго працы. У парламенце адразу звярнуў увагу і аднадумцаў, і палітычных апанентаў не толькі добрым веданнем адносна новай тады сферы радыёэлектронікі, а і сваёй добрай арыентацыяй у сістэмных агульнаэканамічных праблемах. Генадзь Карпенка, выбраны на першай сесіі старшынёй пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета па навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе, адразу ж прапанаваў зацвердзіць сваім намеснікам менавіта Уладзіміра Заблоцкага. У 1992 годзе Заблоцкі ўзначаліў ценявы кабінет Апазіцыі БНФ у беларускім парламенце (які ў той час сапраўды рабіўся парламентам!). Пасля прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі ён атрымліваў прапановы заняць высокія пасады, але палічыў свае погляды несумяшчальнымі з поглядамі бальшасці членаў каманды першага прэзідэнта. Дапамагаў фінансава структурам БНФ падчас «гарачай вясны» 1996 года, пасля чаго страціў усе кантакты з уладарамі жыцця – а адначасова і магчымасці атрымаць годную працу на радзіме… Пазней Уладзімір Заблоцкі працаваў у міжнароднай фірме ў Празе, быў кансультантам эканамічнай групы польскага прэзідэнта Аляксандра Квасьнеўскага. Потым быў запрошаны шведскай інвестыцыйнай кампаніяй ва ўкраінскія Чарнаўцы, дзе самым непасрэдным чынам спрычыніўся да пабудовы і ўводу ў эксплуатацыю сумеснага шведска-ўкраінскага прадпрыемства па вырабе фруктовых сокаў. З прыходам на пасаду прэм'ер-міністра Віктара Януковіча былі звязаны пачатак вялікіх праблем гэтага прадпрыемства. Паводле слоў самога Уладзіміра Заблоцкага, «прыйшлі бандыты і паралізавалі вытворчасць», у выніку чаго шведы адмовіліся супрацоўнічаць з Украінай, а сам Заблоцкі мусіў вярнуцца на радзіму, дзе ўрэшце выйшаў на пенсію. З той пары здольнасці першага ў гісторыі Беларусі «ценявога прэм'ера» былі зноў незапатрабаванымі…

У сярэдзіне ў першым шэрагу нашага здымка – **Зянон Пазьняк**, лідар Народнага Фронту і зноў-такі першы ў беларускай гісторыі апазіцыйнай парламенцкай фракцыі. 1996 год стаў пераломным у яго лёсе: Пазьняк адчуў, што ён вымушаны з'ехаць у палітычную эміграцыю. З той пары яму даводзіцца планаваць свой гадавы рэжым побыту за мяжою, дзелячы яго ў асноўным паміж Варшавай (сціплая кватэрка воддаль ад цэнтра горада) і ЗША (яшчэ больш сціплае жытло ў прыгарадзе амерыканскага мегаполіса). Але пры гэтым Пазьняк імкнецца не сыходзіць з беларускага палітычнага небасхілу. Яскравы прыклад – кіраўніцтва распрацоўкай «Народнай праграмы», у якой выкладзена канцэпцыя аптымальна ўладкаванай Беларусі будучыні. Ведаю асабіста, колькі сіл ён паклаў, каб аб'яднаць у гэтай справе намаганні групы экспертаў.

**Івонка Сурвілла**, якую мы бачым на фота ў першым шэрагу справа, належыць да другога пакалення беларускай ідэйнай эміграцыі ў Паўночнай Амерыцы. Нарадзілася яна ў беларускіх Стоўбцах у 1936 годзе і ўжо з малых гадоў мусіла спазнаць нямала горкіх хвілін. Неўзабаве пасля прыходу савецкай улады яе бацьку, Уладзіміра Шыманца, які працаваў галоўным інжынерам электрастанцыі ў Баранавічах, арыштавалі, а пазней асудзілі на пяць гадоў сібірскай высылкі. Але пакуль ён яшчэ знаходзіўся ў баранавіцкай турме, прыйшлі нямецкія акупанты, у выніку чаго вязні турмы, у тым ліку і Івончын бацька, вярнуліся дадому.

Новага арышту бацькі пасля вяртання бальшавікоў чакаць не сталі: у 1944 годзе ўся сям'я Шыманцоў у таварным вагоне выехала на Усходнюю Прусію, потым пераехала ў Данію, а яшчэ пазней – у Францыю. Менавіта там Івонка засвоіла французскую мову, якой (як беларускай і англійскай) валодае дасканала (да іх можна дадаць нямецкую, дацкую, польскую, іспанскую). Скончыўшы знакамітую Сарбону і выйшаўшы замуж за Янку Сурвіллу, пераехала разам з ім у Іспанію. У сваёй кнізе ўспамінаў «Дарога» Івонка Сурвілла піша:

*«З кожнай з гэтых краін я зжылася. Калі цяпер адведваю Капенгаген, Парыж ці Мадрыд, маю ўражанне, што вяртаюся ў сваю вёску.*

*Але адначасна я заўсёды сумавала па Беларусі. Заўсёды адчувала недахоп нечага істотнага, неабходнага. Толькі калі вярнулася ў Беларусь у 1992 годзе, пазнала тое бясконцае, стопрацэнтнае, амаль фізічнае шчасце, якое толькі раз перажыла перад тым – гэта калі нарадзіла ў Мадрыдзе маю першую дачушку Ганю».*

На здымку мы бачым Івонку Сурвіллу ў Канадзе, куды яна перабралася з сям'ёй у 1965 годзе, яшчэ да таго прыезду ў Беларусь, да выбрання яе на ганаровую пасаду старшыні Рады БНР (якое адбылося ў 1997 годзе).

Свайго будучага мужа **Янку** (на здымку ў другім шэрагу злева) Івонка першы раз убачыла яшчэ ў 1948 годзе падчас першага Сусветнага з'езда беларускай эміграцыі ў Парыжы. Янка Сурвілла пасля знаходжання ў лагеры для перамешчаных асоб у нямецкім Ватэнштэце атрымаў стыпендыю іспанскага ўрада і вывучаў эканоміку ў Мадрыдскім універсітэце. Ён непасрэдна спрычыніўся да арганізацыі радыёперадач, што трансляваліся (натуральна, на роднай мове) з Іспаніі на Беларусь з 1952-га па 1965 год. Пасля пераезду ў Канаду Янка Сурвілла захапіўся мастацкай фатаграфіяй, стварыў цэлую галерэю фотапартрэтаў творцаў беларускай эміграцыі. Да самага апошняга дня свайго жыцця, якое завяршылася 3 чэрвеня 1997 года, так і не здолеў прыехаць у Беларусь, якая заўсёды жыла ў яго сэрцы. Яшчэ тады ў Юль-Гаціно ён казаў нам, што баіцца ўбачыць Беларусь зусім не такой, якой яна яму ўвесь гэты час мроілася…

У другім шэрагу на здымку побач з аўтарам гэтых радкоў мы бачым згаданага вышэй **Міколу Ганька**, які таксама так і не змог да самай сваёй смерці ў 1999 годзе яшчэ хоць раз убачыць свае родныя мясціны непадалёк ад Верацеяў, што на цяперашняй Вілейшчыне. У ваенны час ён вучыўся ў заснаванай легендарным Барысам Кітам Маладзечанскай гандлёва-адміністрацыйнай школе, потым з падачы старэйшага брата Міхася ўступіў у шэрагі падкантрольнага акупацыйным уладам Саюза беларускай моладзі, а неўзабаве выехаў у Аўстрыю. Пачынаючы з 1945 года разам з будучымі вядомымі паэтамі Алесем Салаўём і Уладзімірам Дудзіцкім выпускаў у Зальцбургу газету «Пагоня. З беларускага жыцця». Глыбока веруючы чалавек, ён пасля свайго пераезду ў 1948 годзе ў канадскі Таронта стаў адным з галоўных заснавальнікаў тамтэйшага прыходу і царквы Кірылы Тураўскага Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, а потым на доўгія гады – кіраўніком і сапраўдным рухавіком Згуртавання беларусаў Канады. Асабіста сабраў тоны гуманітарнай дапамогі і пераправіў у Беларусь дзецям прычарнобыльскіх рэгіёнаў. Мне ён запомніўся чалавекам наогул негаваркім, але па-бацькоўску мудрым; чалавекам, для якога Беларусь ніколі не была пустым гукам.

Вось што прыгадалася, калі я зноў убачыў здымак, зроблены 28 гадоў таму…

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ,**
**дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання.**

ПАМЯЦЬ

# Кранальныя ўспаміны пра Міхася Мушынскага

Год таму пайшоў з жыцця вядомы беларускі навуковец, доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук **Міхась Мушынскі**. Сярод галоўных навуковых заслуг прафесара Мушынскага – праца па падрыхтоўцы найбольш поўных збораў твораў **Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага, Міхася Зарэцкага.** Шмат гадоў Міхась Восіпавіч быў рухавіком традыцыйных канферэнцый «Каласавіны», «Гарэцкія чытанні». Найбольш вядомая ягоная праца – «Летапіс жыцця і творчасці Якуба Коласа», больш за тысячу старонак сціслай і дакладнай інфармацыі, без якой сёння не абыходзіцца ні адзін даследчык літаратурнага жыцця Беларусі першай паловы XX века. Як сказала ўнучка Якуба Коласа **Вера Міцкевіч**, Мушынскі як ніхто іншы адпавядаў высокаму званню лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа.



Уганараваць памяць Міхася Мушынскага запрасіла Навуковая бібліятэка Нацыянальнай акадэміі навук імя Якуба Коласа, якая арганізавала адмысловую выставу прац даследчыка, рэдкіх фотаздымкаў, рукапісаў прафесара Мушынскага. Канферэнц-зала была сапраўды перапоўнена: прыйшлі калегі і сябры Міхася Восіпавіча, ягоныя вучні. Свaімі ўспамінамі падзяліліся акадэмікі **Радзім Гарэцкі, Аляксандр Лукашанец, Уладзімір Гніламёдаў.** Выступоўцы адзначалі не толькі ролю Мушынскага ў сучасным беларускім літаратуразнаўстве, але ж апавядалі перш за ўсё пра яго як пра чалавека. Успаміналі ягоныя жарты, яго добразычлівасць, гатоўнасць дапамагчы маладым навукоўцам. Пра тое, што Міхась Восіпавіч не сядзеў у «вежы са слановай косці», але ж сапраўды цікавіўся праблемамі, якімі жыве краіна, сведчыць і той факт, што да канца жыцця ён заставаўся чытачом газеты «Народная Воля».

Вельмі кранальным было выступленне дачкі прафесара, вядомага тэатральнага крытыка і паэткі **Таццяны Мушынскай**. Яна чытала фрагменты ўспамінаў Міхася Восіпавіча пра цяжкія гады дзяцінства на акупаванай Магілёўшчыне. Магчыма, памятаючы ўласнае дзяцінства, столькі часу аддаваў Міхась Мушынскі выхаванню дзяцей і ўнукаў. Сын стаў навукоўцам-фізікам, унукі працягваюць справу дзеда-гуманітарыя: **Дзяніс Марціновіч** – вядомы тэатральны і літаратурны крытык, **Ягор Марціновіч** сёння рэдагуе «Нашу Ніву».

Выстава ў навуковай бібліятэцы НАН, прысвечаная памяці Міхася Мушынскага, будзе яшчэ працаваць. Запрашаем усіх, каго сапраўды цікавіць беларуская літаратура, наведаць яе і ўспомніць чалавека, які шмат намаганняў прыклаў да таго, каб вярнуць чытачам забароненыя творы пісьменнікаў 1920–1930-х гадоў, які жыў дзеля таго, каб гучала слова беларускае.

**Алесь КЛЯЎЧУК.**

ЧУЛІ?

# Прадаюць вежу з Паланэзам Агінскага

Воданапорную вежу, якой больш за 100 гадоў і з якой штодня апоўдні гучыць для Слоніма знакаміты Паланэз Агінскага, прадаюць з аўкцыёну.

Пачатковая цана – 43.600 рублёў.

Воданапорная вежа ў Слоніме была пабудавана ў 1916 годзе. З 1920 года і да Другой сусветнай вайны з вежы двойчы ў дзень – у 8 раніцы і ў 8 вечара – гучаў Паланэз Агінскага, выкананы на ражку. У савецкія часы традыцыя была страчана, але яе аднавілі ў 90-я гады мінулага стагоддзя. Праўда, мясцовы краязнаўца **Сяргей Чыгрын** заўважае, што час ад часу музыка знікала і зноў з'яўлялася.

Апошнія гады «музычная вежа», як яе называюць слонімцы, належала прадпрыемству «Футбольны клуб «Слонім». Эканамічны суд Гродзенскай вобласці прызнаў яго банкрутам, а маёмасць выставіў на аўкцыён.

Некаторыя слонімцы прапаноўвалі зрабіць у воданапорнай вежы музей вады і кавярню, але прапанова так і засталася непачутай.




**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

